№ 197 (2010)

Серада, 20 кастрычніка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +6...+8, уначы — +3...+5, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +9...+11, уначы — +4...+6, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +9...+11, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +4...+6, дождж, уначы — +4...+6, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +7...+9, дождж, уначы — +4...+6, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +5...+7, дождж, уначы — +3...+5, без ападкаў.

*www.meteo.by*

РЭЗАНАНС

## Нязгодныя з вынікамі рэферэндуму ўзялі курс на рэзідэнцыю

### *Але праравацца да «галоўнага будынка краіны» ім перашкодзіў АМАП*

*"Людзі, у нас скралі перамогу!"* — звярталіся адзін да аднаго тыя, што сабраліся ў панядзелак увечары на Кастрычніцкай плошчы ў цэнтры сталіцы. З вялікага экрана, замацаванага на плошчы, афіцыйны канал якраз трансліраваў выступ афіцыйнага лідэра. *"Ганьба!"* — перабіваў рэпартаж натоўп. *"Колькі з нас можна здзекавацца,* — эмацыянальна крычала моладзь. — *Дастала ўсё. Мы людзі, а не быдла!"*

Калона пад кіраўніцтвам лідэра БСДП (НГ) Міколы Статкевіча выйшла на праезную частку. Да рэзідэнцыі прэзідэнта было ўжо рукой падаць... Тая невялікая колькасць міліцыянтаў, што знаходзіліся з дэманстрантамі з самага пачатку акцыі і была выстаўлена ў ланцужок каля Купалаўскага тэатра, ціск натоўпу не вытрымала. Сітуацыя накалялася... Літаральна праз некалькі секунд з усіх бакоў на скрыжаванне зляцеліся аўтобусы з амапаўцамі. Зразумеўшы, што стрымаць мітынгоўшчыкаў не атрымаецца, службоўцы пачалі людзей хапаць і цягнуць у аўтобусы. Затрымлівалі жорстка: цягнулі па асфальце за рукі, ногі, вопратку... Карціны супрацьстаяння беларусаў з міліцыяй знялі і паказалі шматлікія сусветныя тэлеканалы. *"Як вы можаце са свайго народа так здзекавацца?!"* — плакалі жанчыны. *"У нас загад, мы самі ад гэтага асалоду не атрымліваем",* — сурова канстатавалі хлопцы ў камуфляжы.

У выніку калону разбілі на часткі, людзі апынуліся па розныя бакі плошчы. Але жадаючых выказаць свой пратэст супраць вынікаў рэферэндуму станавілася ўсё болей. Што паказальна: падчас руху калоны кожная другая машына сігналіла ў такт выклікам "Жыве Беларусь!", кіроўцы і пасажыры дэманстравалі сваю салідарнасць з пратэстуючымі. Праз пэўны час мітынгоўшчыкам усё ж удалося ўз'яднацца на Кастрычніцкай плошчы. Па ацэнках некаторых назіральнікаў, колькасць сабраўшыхся дасягнула дзвюх тысяч. Слова ўзялі Мікола Статкевіч, Павел Севярынец, прадстаўнік Чэхіі, лідэры незарэгістраванага руху "Зубр". *"Вы — сапраўдныя беларусы,* — звярнуліся да прысутных палітыкі, — *таму што не схіляеце галавы і не сядзіце склаўшы рукі. Нас спрабуюць падмануць, але мы за сваю свабоду будзем змагацца!"* У гэты ж час да сабраўшыся пакрысе далучаліся тыя, хто "пацярпеў ля рэзідэнцыі". Як аказалася, паступіў загад усіх затрыманых выпусціць. *"Сказалі нікога не браць",* — чулася з рацый міліцыянтаў.

Пасля стыхійнага мітынгу калона накіравалася да будынку КДБ з патрабаваннем вызваліць апазіцыянера Яўгена Афнагеля, які быў схоплены падчас бойкі ля рэзідэнцыі і дастаўлены ў Камітэт. І вялікай нечаканасцю стаўся выхад да пратэстуючых шэфа КДБ Леаніда Ерына, які запрасіў да сябе "на прыём" лідэра незарэгістраванага "Маладога фронту" Паўла Севярынца і некалькіх журналістаў: перад усімі было паабяцана, што старшыня КДБ адкажа на самыя вострыя пытанні. *"Мы пыталіся ў спадара Ерына пра зніклых палітыкаў, пра іншыя набалелыя рэчы, але адказы былі вельмі няпэўныя",* — распавёў пасля Павел Севярынец.

Так ці інакш, але шэфу КДБ трэба аддаць належнае ва ўсялякім разе ў дыпламатычнасці.

Мітынг скончыўся позна ўвечары на Кастрычніцкай плошчы. Пратэстуючыя дамовіліся акцыі пратэсту працягваць.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

**На здымках:** *справа зверху — старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі Леанід Ерын запрашае "на прыём" прадстаўнікоў апазіцыйнай акцыі; знізу — настрой у мітынгоўшчыкаў быў рашучы, як і ў тых, перад кім была пастаўлена задача ні ў якім разе не дапусціць да "Чырвонага дома".*

**Фота photo.bymedia.net**








ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Кулаком в голову

*Как уже сообщалось, руководитель отдела спецпроектов Общественного российского телевидения журналист Павел ШЕРЕМЕТ обратился в милицию с заявлением о том, что его избили.*

*Денис Борщевский и Андрей Качановский в Советском РУВД объяснили, что одному из них Шеремет "саданул в лоб" так крепко, что тот рухнул на землю...*

**Денис Борщевский** 1981 года рождения, работает в ЗАО "Керамин".

**Андрей Качановский** — 1982 года рождения, он плотник СУ №22.

По словам парней, 17 октября они вместе гуляли. Около 19.30 они решили зайти в общественный туалет, который, по их мнению, находится во дворах недалеко от зданий Советского исполкома и посольства Латвии. Туалета там не оказалось. Зато оказался Шеремет, у которого Борщевский решил "стрельнуть" сигаретку. Стоит отметить, что сигареты были у его приятеля Качановского, но легкие. Как оказалось, Борщевский такие не курит. Денис попросил сигарету у Шеремета.

Как рассказал сотрудник "Керамина" в милиции, он обратился к журналисту в вежливой форме, а в ответ услышал нецензурную брань. По его словам, Шеремет тут же саданул ему в лоб, отчего Борщевский упал в грязь...

В это время Качановский начал истошно голосить: *"Милиция! Милиция!"*. Практически сразу подъехал наряд милиции.

Павел Шеремет настаивает на том, что эти двое, спросив про какую-то девушку, стали бить его по голове.

*"Когда мы с жруналистом Светланой Калинкиной садились в машину, к нам подбежали два молодых человека с криком, что я пристаю к девушке одного из них,* — рассказал Павел "Народной воле". — *Я даже толком ничего не понял, потому что как раз разговаривал по мобильному телефону с Борисом Немцовым (он может это подтвердить). Прервав разговор, я попытался объяснить парням, что ничего не знаю, что из Москвы приехал ненадолго. Завязалась потасовка. Меня били кулаками по голове. Удары наносили преимущественно сзади. Драка продолжалась несколько минут. Вокруг было много людей. .."*

В Советский РУВД прибыли все трое. По словам Шеремета, Борщевского и Качановского доставили туда в наручниках.

В милиции Борщевский отказался от проведения судебно-медицинской экспертизы. *"Причиненные мне телесные повреждения являются незначительными",* — написал он.

Заявление журналиста о том, что его избили, в милиции приняли, но в последствии, по словам адвоката, оно где-то затерялось. Дело неожиданно обернулось против самого Шеремета: его обвинили в мелком хулиганстве и составили административный протокол на основании объяснений "потерпевших". Правда, откуда при этом у Шеремета появилась черепно-мозговая травма — неизвестно.

Сам Павел в интервью "Народной воле" заявил, что расценивает случившееся, как провокацию властей.

*"Власть таким образом решила изолировать меня",* — говорит он.

О случае с Шереметом сегодня говорят многие. И все выстраивают свои версии происшедшего. Например, есть версия, что не так давно Борщевский и Качановский могли проходить по одному из уголовных дел. И в качестве "гарантий" им предложили "бартер": мол, поучаствуете в "спецзадании" — прикроем дело.

Проверить данную версию, конечно, сложно. Но можно. Для этого, по словам адвокатов, необходимо *"затребовать информацию у уполномоченных органов о том, проходили ли эти лица по какому-либо делу"*.

Некоторые считают, что власть мстит Шеремету за книгу ***"Случайный президент",*** изданную в Москве в соавторстве с экс-главным редактором "Белорусской деловой газеты" **Светланой Калинкиной.** Накануне референдума и парламентских выборов книгу активно конфисковывали у отдельных кандидатов в Палату представителей как "запрещенную литературу". А за пару дней до референдума Шеремет вручил книгу российским журналистам, приехавшим в Минск по приглашению белорусских властей.

*(Окончание на 2-й стр.)*

ДИАЛОГ

## Если Россия будет поддерживать белорусский режим...

*Если Россия будет по-прежнему поддерживать белорусский режим, это приведет к росту антироссийских настроений среди белорусов. Таково общее мнение видных отечественных политиков и представителей культуры, побывавших вчера в Москве, чтобы рассказать журналистам и общественности соседней страны о том, что произошло у нас 17 октября.*

Пресс-конференция, на которой шел разговор в первую очередь о многочисленных фактах фальсификации, прошла 19 октября в Независимом пресс-центре (Москва). Открывавший ее президент Фонда защиты гласности (Россия) **Алексей СИМОНОВ** сразу же настроил присутствующих на обсуждение того, как происшедшее в Беларуси скажется на ситуации в России.

"Нужно понимать, что Беларусь — полигон, на котором отрабатываются события, через 4-5 года переносящиеся в нашу страну", — считает Алексей Симонов. Такого же мнения придерживается наш поэт **Генадь БУРАВКИН**, представлявший на пресс-конференции белорусскую интеллигенцию. По его словам, эту версию подтверждает тот факт, что Белорусское телевидение в предверии выборов и референдума показывала не отечественных приверженцев режима, а российских политиков и деятелей культуры, приторно восхищающихся Лукашенко.

Вообще, по мнению Буравкина, российские политики постоянно вмешиваются во внутренние дела Беларуси, поддерживая нынешнего лидера страны. При их содействии Александр Лукашенко нарушил в воскресенье один из главных конституционных принципов — принцип преемственности власти. Поэтому им не стоит удивляться, когда в один прекрасный день будет нарушена и Конституция Российской Федерации.

*(Окончание на 2-й стр.)*

# Шыла ў мяшку не схаваеш

*Лукашэнкаўская прапаганда трубіць: выбары і рэферэндум прайшлі дэмакратычна, адкрыта, у адпаведнасці з заканадаўствам.*

*На каго разлічвае лукашэнкаўская прапаганда — на дурняў ці на сур'ёзных людзей?*

*У рэдакцыю працягвае паступаць інфармацыя аб бязмежных парушэннях заканадаўства, аб ігнараванні ўладамі і камісіямі, створанымі імі, прынцыпаў дэмакратыі, аб тым, што сапраўднага волевыяўлення народа 17 кастрычніка і блізка не было.*

### «Беларусь упусціла магчымасць зрабіць крок да ўступлення ў еўрапейскую сям'ю»

Пра гэта заявіла кіраўнік кароткатэрміновых назіральнікаў місіі Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ ў Беларусі, віцэ-прэзідэнт Парламенцкай асамблеі АБСЕ Тунэ Тынсгард (Швецыя). На прэс-канферэнцыі была прадстаўлена папярэдняя справаздача аб высновах і заключэннях работы місіі па назіранні за ходам падрыхтоўкі і правядзення парламенцкіх выбараў у Беларусі.

Папярэдняя выснова місіі заключаецца ў тым, што выбары 17 кастрычніка "істотным чынам" не адпавядалі стандартам і нормам АБСЕ.

"Беларусь прыналежыць і павінна прыналежыць да Еўропы", — адзначыла Т.Тынсгард. Яна таксама заявіла аб тым, што АБСЕ і яе арганізацыі гатовы аказваць садзейнічанне ўладам дзяржавы і грамадзянскай супольнасці краіны. Ад імя ПА АБСЕ Т.Тынсгард запрасіла Нацыянальны сход рэспублікі ўзяць актыўны ўдзел у працы асамблеі.

**Марына РАХЛЕЙ.**

### На думку еўрапейскіх назіральнікаў, сапраўдныя вынікі выбараў і рэферэндуму былі схаваны ад беларускай і міжнароднай супольнасці

Назіральнікі ад Інстытута дэмакратыі ва Усходняй Еўропе (IDEE) мяркуюць, што сапраўдныя вынікі выбараў і рэферэндуму ў Беларусі былі ўтоены ад беларускай і міжнароднай супольнасці. У групу з 18 назіральнікаў былі ўключаны журналісты з Азербайджана, Чэхіі, Казахстана, Кыргызстана і Польшчы.

Як зазначыла каардынатар назіральнікаў ад IDEE Петрушка Шустрава (Чэхія), "вынікі выбараў былі прадвызначаны да галасавання, а афіцыйныя іх вынікі не адпавядаюць волі беларускага народа". "Ажыццяўляючы назіранне з 12 па 17 кастрычніка, мы канстатуем, што ў краіне не выконваюцца міжнародныя дэмакратычныя стандарты і нават беларускі Выбарчы кодэкс. Адной з асноў дэмакратычных выбараў з'яўляецца іх празрыстасць, каб грамадзяне маглі бачыць залежнасць вынікаў выбараў ад рашэння людзей. На жаль, сапраўдныя вынікі выбараў і рэферэндуму былі ўтоены ад беларускай і міжнароднай супольнасці", — падкрэсліла П.Шустрава.

Паводле слоў назіральніка Хікмета Хаджы-задэ (Азербайджан), які рабіў назіранне на Бабруйскай выбарчай акрузе №65 (Магілёўская вобласць), на ўчастках ажыццяўляліся розныя формы матэрыяльнага, фізічнага і псіхалагічнага ціску на выбаршчыкаў. "Мы маем факты прымушэння да датэрміновага галасавання, з пагрозай пазбаўлення прэміяльных, людзей, якія жывуць у інтэрнатах і працуюць на бюджэтных прадпрыемствах. Ім указвалі, за каго галасаваць — за рэферэндум і праўрадавых кандыдатаў. Выбары не былі роўнымі, бо ў кандыдатаў ад улады была маса магчымасцей, што адсутнічалі ў незалежных кандыдатаў. Выбары не былі празрыстымі, бо мы з некалькімі польскімі журналістамі былі адзінымі прадстаўнікамі СМІ, якія назіралі за выбарамі ў 250-тысячным горадзе. Паводле нашых звестак, датэрмінова прагаласавалі 44 працэнты выбаршчыкаў нашай акругі, прычым на трох участках гэтая лічба складала 100 працэнтаў. На адным з участкаў, дзе назіральнікі пастаянна кантралявалі ход папярэдняга і асноўнага галасавання і рэгістравалі ўсіх, хто прыйшоў на выбары, колькасць бюлетэняў у скрынкі ў два разы перавысіла тую, што ўкінулі прагаласаваўшыя.

Паводле яго слоў, сістэма фальсіфікацыі заснавана на тым, каб утаіць яе ад назіральнікаў, якія займаюцца сваёй справай у дзень асноўнага галасавання. "У гэты дзень нічога незвычайнага не адбываецца, а ўсе фальсіфікацыі робяцца ў перыяд датэрміновага галасавання. Так, па выніках папярэдняга галасавання на нашай акрузе праўрадавы кандыдат перамог апазіцыйнага з 15-кратнай перавагай, у той час як у дзень асноўнага галасавання яны набралі роўную колькасць галасоў", — падкрэсліў журналіст. Паводле яго слоў, такая сітуацыя назіралася ва ўсіх трох акругах Бабруйска.

Назіральнік Алішэр Таксыбаеў (Кыргызстан) таксама канстатаваў, што датэрміновае галасаванне прайшло пад прымусам. З участкаў для датэрміновага галасавання выдалялі назіральнікаў ад дэмакратычных сіл, у тым ліку ад апазіцыйных партый. "Разам з тым на беларускім тэлебачанні назіральнікі ад СНД адкрыта заклікалі грамадзян краіны прагаласаваць за рэферэндум, што азначае ўмяшанне ў справы іншай дзяржавы", — падкрэсліў журналіст. Ён лічыць, што вынікі выбараў і рэферэндуму сфальсіфікаваныя ўладамі Беларусі і не адпавядаюць міжнародным стандартам.

### Расійскі назіральнік прывёў факты фальсіфікацый

Расійскі журналіст, карэспандэнт агенцтва ПРИМА-NEWS **Азгар ІШКІЛЬДЗІН** прывёў факты фальсіфікацыі вынікаў галасавання на выбарчым участку № 495 Усходняй выбарчай акругі № 107. На гэтым участку ў дэпутаты парламента балатаваліся старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка, цяперашні дэпутат Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Крук і незалежны кандыдат Яўген Даронін.

Будучы назіральнікам у групе журналістаў ад Інстытута дэмакратыі ва Усходняй Еўропе, Ішкільдзін 17 кастрычніка ў 18.30 атрымаў аддрукаваны тэкст запланаваных для ўнясення ў пратакол вынікаў галасавання яшчэ да яго заканчэння. "Разам з даверанай асобай кандыдата ў дэпутаты парламента, старшыні Партыі БНФ Вінцука Вячоркі Аляксандрам Жучковым мы накіраваліся на ўчастак і з 20.00 назіралі працу членаў выбарчай камісіі, якія на трох сталах сартавалі бюлетэні. У 20.50 старшыня выбарчай кампаніі абвясціў вынікі правядзення выбараў і рэферэндуму і мы атрымалі копію пратакола, у якой вынікі, за выняткам адной лічбы — тых, хто прагаласаваў за В.Вячорку — поўнасцю адпавядалі запланаваным вынікам.

З вынікамі галасавання па кандыдаце ў дэпутаты Я.Дароніну была цікавая гісторыя. Калі старшыня камісіі аб'яўляў вынікі, ён сказаў пра 151 выбаршчыка, якія прагаласавалі за яго. І я пачаў сумнявацца ў тым, што ўсё ідзе паводле плана, бо ў раней падрыхтаваным пратаколе фігуравала лічба ў 82 выбаршчыкі. Аднак старшыня камісіі абверг усе мае сумненні, калі праз 10 хвілін заявіў аб памылцы і папрасіў выправіць колькасць тых, хто прагаласаваў за Я.Дароніна, са 151 на 82 чалавекі", — сказаў А.Ішкільдзін.

Ён выказаў шкадаванне, што старшыня і члены выбарчай камісіі адмовіліся падпісаць выніковы пратакол, што мела месца на большасці ўчасткаў. "Усё гэта я бачыў, як і іншыя назіральнікі. А таксама члены выбарчай камісіі", — падкрэсліў журналіст.

Гэтую інфармацыю пацвердзіла БелаПАН і даверанная асоба В.Вячоркі Аляксандр Жучкоў, які разам з А.Ішкільдзінам знаходзіўся на выбарчым участку падчас падвядзення вынікаў галасавання. "Толькі пасля таго, як яны былі аб'яўлены і супалі запланаваныя і рэальныя вынікі выбараў, я заявіў аб тым, што валодаю тэкстам запланаваных для ўнясення ў пратакол вынікаў галасавання. Гэты тэкст я паказаў і аб'явіў для ўсіх прысутных на ўчастку", — падкрэсліў А.Жучкоў.

*Тамара СЯРГЕЙ:*

### «На выбарчым участку № 530 вынікі выбараў былі сфальсіфікаваны»

*Незалежны назіральнік Тамара Сяргей лічыць, што ў Мінску на выбарчым участку № 530 Усходняй выбарчай акругі №107 былі сфальсіфікаваны вынікі галасавання.*

У інтэрв'ю БелаПАН Т.Сяргей паведаміла, што 17 кастрычніка яна не была дапушчана да працэдуры падліку галасоў. *"Я была пазбаўлена магчымасці назіраць працэс падліку галасоў, паколькі па ўказанні старшыні ўчастковай выбарчай камісіі Танны Вераціла мне належыла знаходзіцца на адлегласці больш за 7 метраў ад стала, а любыя спробы набліжэння да яго спыняў малодшы сяржант міліцыі Барыс Жылка. На мае просьбы даць мне магчымасць назіраць падлік галасоў я атрымала адмову і папярэджанне аб магчымым выдаленні з памяшкання. Мне забаранілі карыстацца тэлефонам і пакідаць памяшканне пад пагрозай пазбаўлення магчымасці вярнуцца на выбарчы ўчастак",* — заявіла назіральнік.

Паводле яе слоў, на 11 кастрычніка, згодна са звесткамі члена выбарчай камісіі Сяргея Дзічкоўскага, у спіс для галасавання было ўнесена 670 прозвішчаў выбаршчыкаў, а па выніках галасавання іх аказалася 774. *"З іх у галасаванні ўзялі ўдзел 575 выбаршчыкаў. Аднак, па маіх звестках, прагаласавалі не больш чым 500 чалавек, у тым ліку 65 — у дні датэрміновага галасавання і 403 — 17 кастрычніка",* — падкрэсліла Т.Сяргей.

Паводле яе слоў, усе свае ўказанні А.Вераціла аддавала ў катэгарычнай форме. "У такім жа тоне яна адмовілася далучыць мае заўвагі да выніковага пратакола галасавання, з якім мяне не азнаёмілі. Усё вышэйвыкладзенае, а таксама адмова А.Вераціла прадаставіць мне магчымасць азнаёміцца са спісамі выбаршчыкаў і прысутнічаць пры апячатванні скрыні па выніках папярэдняга галасавання, сведчыць аб тым, што на выбарчым участку № 530 мела месца фальсіфікацыя вынікаў галасавання па выбарах кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і рэферэндуму", — заявіла Тамара Сяргей.

Як паведаміла назіральнік, яна перадала неабходныя дакументы давераным асобам кандыдата ў дэпутаты, старшыні Партыі БНФ Вінцука Вячоркі.

**Марат ГАРАВЫ.**

*Рычард БАЎЧЭР, прэс-сакратар Дзярждэпа ЗША:*

### «Мы шкадуем, што беларусам не далі магчымасці адкрыта і свабодна выказаць сваю волю»

Прэс-сакратар Дзярждэпартамента ЗША **Рычард БАЎЧЭР** выказаў шкадаванне наконт таго, што *"беларусам не далі магчымасці свабодна і адкрыта выказаць сваю волю".* Пра гэта ён заявіў журналістам на брыфінгу ў Вашынгтоне 18 кастрычніка.

Р.Баўчэр пазітыўна ацаніў той факт, што беларускія ўлады запрасілі міжнародных прадстаўнікоў ад АБСЕ весці назіранне за парламенцкімі выбарамі. Разам з тым ён выказаў занепакоенасць наконт таго, што выбары не адпавядалі стандартам гэтай арганізацыі. *"Запрашэнне назіральнікаў не вырашае праблемы адкрытасці выбараў",* — падкрэсліў прэс-сакратар.

*"Як вы ведаеце, мы не раз заклікалі Беларусь прывесці правядзенне выбараў і рэферэндуму да міжнародных стандартаў і нормаў АБСЕ,* — сказаў Баўчэр. — *Аднак папярэдняя справаздача аб высновах Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ паказала, што выбары істотна не адпавядалі гэтым нормам".*

Прэс-сакратар паведаміў, што міжнародныя назіральнікі зафіксавалі вялікую колькасць парушэнняў яшчэ падчас перадвыбарчай кампаніі, якая, паводле яго слоў, была *"палітычна прадузятай".* Парушэнні таксама адзначаны падчас галасавання і пры падліку галасоў.

Р.Баўчэр заявіў, што амерыканскаму ўраду вядома пра несупадзенне афіцыйных вынікаў рэферэндуму і вынікаў "экзіт-пола", праведзенага незалежнымі даследчыкамі.

**Марына РАХЛЕЙ.**

